Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12 — 6. (Wilenska 12. m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзен. Адміністр. ад 9 да 3

Падпіска на адзін месяц з дастаукай да хаты 2 зл. Для заграніцы удвая даражэй.

Перамена адрэса 30 грошы.

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

# БЕЛАРУСКАЯ НІВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

№. 8 (21). Вільня, Субота, 30-га студзеня 1926 г. Год II.

## „Мы“.

Ня можа быць ніякае спрэчкі аб тым, што запраўды моцнай будзе адно толькі такая дзяржава, у якой кожны грамадзянін гавора з гордасьцяй аб ёй—„*мы*!“.

Запраўды-ж: ясна бяз лішніх слоў, што толькі тады дзяржаўнае жыцьцё можа мець крэпкія, непарушныя падставы, калі жыхары яго будуць бачыць найлепшае забясьпечаньне сваіх патрэбаў і інтарэсаў у сіле і магутнасьці дзяржавы. І блага тэй дзяржаве, у якой істнуе супярэчнасьць паміж інтарэсамі народных масаў і інтарэсамі дзяржавы, як установы.

Аб такой супярэчнасьці ў Польшчы лішне ўжо многа піша польская прэса ўсіх кірункаў. Калі абшарнікі ў польскім „дэмакратызьме“ бачаць пагрозу іх „сьвятому праву“ уладаньня зямлёй, калі прамыслоўцы, якія зьяўляюцца запраўднымі гаспадарамі дзяржавы, нездаволены тым, што яна йшчэ замала карысьці ім дае і перашкаджае аканчальна абярнуць работнікаў у рабочую жывёлу, дык што-ж гаварыць аб працоўных масах—асабліва аб так-званых „нацыянальных меншасьцях“? Польская дзяржаўная палітыка зусім адкрыта хоча абаперці сваю моц на дэнацыяналізацыі гэных „меншасьцяў“, якія, наадварот, імкнуцца да жыцьця і разьвіваньня сваіх нацыянальных асаблівасьцяў, сваей нацыянальнай культуры...

Усе гэтыя думкі мільганулі ў галаве, як маланка, калі паважаны прадстаўнік Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады, пасол Мятла, які толькі-што вярнуўся з падарожжы ў ССРР і БСРР, дзяліўся з Рэдакцыяй сваімі ўражаньнямі з бытнасьці на Усходзе.

— „Я меў уражаньне, быццам бачу вялізарны дом, у якім усё было перавернена ўверх нагамі, і вось гаспадары яго расстаўляюць усе рэчы ў парадку нанова. Галоўнае ўжо пастаўлена, і толькі робіцца парадак з драбніцамі.

„Але што мяне асабліва паразіла, дык гэта агульныя адносіны ўсіх да гэнае работы—адбудовы жыцьця дзяржавы. З кім я ні гаварыў: усе маюць пачуцьцё таго, што гэта—іх уласная справа, што ад добрага наладжаньня новага ладу ў гэтым вялізарным доме залежыць іх уласная доля і шчасьце.

„*Мы* будуем!—кажа інтэлігент-інжэнер у нейкай фабрыцы.

„*Мы* завядзём лад!—кажуць работнікі.

„*Мы* творым новае жыцьцё!—кажуць народныя вучыцялі.

„*Мы, мы, мы*—кажуць маладыя сяляне, тлумачучы новыя зямельныя парадкі....

„І ўсюды адчуваецца гэтае глыбокае перакананьне, што кожын актыўны грамадзянін-працаўнік прымае ўчасьце ў будаваньні і сваей і дзяржаўнай будучыны“.

Расказанае нашым дэпутатам глыбока паразіла і нас. Паразіла, бо-ж тут, у Польшчы, нас кожын дзень прывучаюць памятаць, што мы—грамадзяне „другога сорту“, пазбаўленыя права голасу ў справах агульна-дзяржаўных, пазбаўленыя права на ўчасьце ў уладзе дзяржаўнай, да якое маюць доступ выключна „прыраджоныя гаспадары“ — палякі, якія і рашаюць аб лёсе добрае трціны жыхараў „польскага дому“, дзе нас пасялілі супраць нашае волі і ахвоты.... Бо нават і вялізарная большасьць „пануючае нацыі“ — яе працоўныя масы—ня могуць з перакананьнем сказаць: дзяржава — гэта мы!, — бо яны за свае імкненьні палітычнага і сацыяльнага-характару як-жа часта абвяшчаюцца элемэнтам „антыпаньствовым“!.... Бо нават тая запраўдная меншасьць насяленьня — польская буржуазія, якая зьяўляецца пануючай клясай, — нават і яна на кожным кроку дае доказ таго, што дзяржава для яе істнуе адно пастольку, паскольку дае ей карысьць *сягоньня, зараз*, ня хочучы нават і слухаць аб нейкіх ахвярах сяньня дзеля *будучыны* дзяржавы.....

„*Мы*“—запраўды-ж вялікае слова, калі народ гэтым словам называе сваю дзяржаву. Ці зразумеюць гэта хоць калі сучасныя валадары Польшчы?.....

## Панаваньне цемры.

Польскія газэты падалі статыстыку няграматных у „ўсходніх ваяводзтвах“. Паводле аблічэньняў (няведама толькі чыіх) на 1 кастрычніка 1925 г. ўсяго **няграматных** на ўсім прасторы гэтых ваяводзтваў („Крэсаў“), лічучы нават толькі людзей, маючых 10 гадоў і вышэй,—**аж 64 з паловай працантаў**...

Па ваяводзтвам гэты процант раскладаецца так: у ваяв. **Віленскім** — 56.7 проц., у ваяв. **Навагрудзкім**—54.6 проц., у ваяв. Палескім — 71 проц., у ваяв. **Валынскім**—68.8 проц.

Паміж мужчынамі і кабетамі няграматнасьць падзяляецца так: мужчын няграматных—54.5 проц., жанчын—73.7 проц.

Найменшы процант няграматных—сярод жыдоў: 39.1 проц.; трохі большы сярод палякоў і беларусаў каталікоў: 40.4 проц.; найвялікшы сярод праваслаўных (значыць перад усім беларусаў і ўкраінцаў): 76.5 працантаў...

Можам сьцьвярдзіць, што гэткай лічбы няграматных ніколі ня было навет у царскай Расеі. Столькі анальфабэтаў магло разьвясьціся толькі ў „дэмакратычнай“ Рэспубліцы, якая, заклікаючы сваей Канстытуцыяй народныя масы да палітычнага жыцьця, адначасна—праз свае шовіністычна-сьляпыя ўрады — **пазбаўляе 10 мільёнаў беларусаў і ўкраінцаў запраўднай народнай школы**, першага варунку да сьведамага палітычнага жыцьця...

Гэтыя страшэнныя лічбы няграматных, рысуючыя красамоўна культурна-асьветны крызіс ў Польшчы, толькі дапаўняюць абраз агульнага крызісу ў Польшчы, які выяўляецца ў лічбе безработных, у краху польскай валюты, у статыстыцы лопнуўшых фабрык, банкаў, фірм, у беззямельлі і гаспадарчай руіне 20-міліённага сялянства (—70 проц. усяго насяленьня краю!).

Беларускі і ўкраінскі народ заяўляе польскай уладзе перад усім сьветам: „або свая родная школа, або—ніякай!“. — А ў адказ на гэта польская ўлада кажа беларусам дый украінцам: „або чужая польская школа, або—ніякай!“.

## Што пісаў паўтара века назад „ойцец дэмакратыі польскай“.

*(Да 100-тых угодкаў сьмерці Сташыца).*

Нейкі мудры славянін сказаў аб славянах, што яны вельмі шляхотны... ў бядзе, дый разумны—па шкодзе! Шкада толькі, што яны не захоўваюць ані розуму ані шляхотнасьці ў часы шчасьця і трыумфаў...

Нажаль, палітычны розум і грамадзкая шляхотнасьць так званага „польскага генія“ маюць асабліва ярка выяўлены гэты „славянскі“ характар. Ці-ж ня з гэтай прычыны дзяржаўны розум і сацыяльная шляхотнасьць польскага грамадзянства, якія знайшлі сабе такое моцнае і на рэдкасьць пекнае выражэньне ў польскай літэратуры—у адбіцьці страшэннай дзяржаўна-нацыянальнай катастрофы польскага народу,—ці-ж ня з гэтае прычыны яны ня маюць ніякай сілы ў рэальнай працы і творчасьці гэтага грамадзянства цяпер, калі — з трыумфам „уваскрасеньня“ — адчынілася для іх зьдзейсьненьня запраўдная магчымасьць?

Дык навет тыя лекцыі страшэннае мінуўшчыны, навет тыя „перасьцярогі“ дзеля будучыны, якія духоўныя правадыры Польшчы выцягнулі з сумнага лёсу сваей айчызны, навет той „нэгатыўны розум“, якога, здавалася-б, павінна была-б навучыць Польшчу яе катастрофа, — усё гэта як быццам прапала для яе—ад хвіліны „трыумфу“... І польскі народ жыве як-быццам зусім без галавы, пасоўваецца ў сваім новым дзяржаўным жыцьці, кіруючыся ня розумам і шляхотнымі ідэаламі, як выпадала-б разумнай і маральна адказнай істоце, але — даразнымі пабуджэньнямі цёмных інстынктаў і ніжэйшых апэтытаў, як безадказная жывёла...

І мы толькі што чыталі, як абодва выдатнейшыя правадыры сучаснага польскага грамадзянства—Дмовскі і Розвадовскі, ня кажучы ўжо аб пылаючым пагардай п. Пілсудскім,—у адзін голас сцьвярдзілі гэты, мякка кажучы, „жывёльны“ характар пануючага польскага грамадзянства, раўнуючы яго—з „сьвіньнёй, жыруючай у карыце“...

Пасьля вышэйшых радкоў ясна, якую вартасьць маюць усе тыя „ўрачыстасьці“, якімі па ўсей Польшчы—па загаду самога Ст. Грабскага!—адсьвяткаваны юбілей Сташыца, празванага „бацькам польскага дэмакратызму“. Як усе „ўрачыстасьці“ ў „адроджанай Польшчы“, таксама і „абходы“ ў чэсьць гэтага „вучыцеля палітычнага розуму“ Польшчы зьяўляюцца толькі... рэклямай дзеля заграніцы! Запраўды-ж: калі эндэк Ст. Грабскі рэклямуе Сташыца, як „бацьку польскага дэмакратызму“, дык ясна, што „сынок“ шануе бацьку —не за тое, што той казаў і пісаў, але папросту —хваліцца такім бацькай.

Што ж казаў і пісаў больш ста гадоў назад гэты Сташыц, якога сучасная „дэмакратычная“ Польшча называе сваім „бацькай“?

---

Гэты Сташыц бачыў сваімі вачыма канец старой шляхоцкай Польшчы і ў сваіх творах перад усім выкрыў прычыны яе катастрофы, даў дыягноз усіх маральна-грамадзкіх хваробаў старога польскага грамадзянства. Сташыц даў так-жа і абапертыя на гэтым дасьледзе „Перасьцярогі Польшчы“ на будучыну — дзеля будучага адраджэньня народу.

---

Мудрасьць Сташыца была якраз такога славянскага — спозьненага роду, аб якім мы казалі напачатку... Можа дзеля таго яна і зусім ня ўплывае на сучаснае польскае дзяржаўнае жыцьцё... У кожным разе мы можам ужо сьцьвярдзіць, што ўсе „Увагі“ і „Перасьцярогі“ Сташыца прапалі дарма для сучаснай панска-буржуазнай, шляхоцка-адраджонай Польшчы, якая ўжо ня можа адратавацца нічым. Ей навет сам праф. Розвадовскі радзіць зрабіць сабе—„харакіры“... Ня ўспомніла гэтая Польшча аб Сташыцу ў часы „трыумфаў“. Успомніла цяпер — з прычыны афіцыяльнага юбілею, але таксама—запозна, бо ўжо—„па шкодзе“...

---

Сташыц не належаў да шляхоцтва, бо быў мешчанінам; дык ён перад усім быў заўзятым ворагам таго польскага шляхоцтва, таго паразытнага абшарніцтва, якое нікому іншаму не давала жыцьця ў старой Польшчы і ўваскрасіла ўсю сваю даўнюю сілу і ў „новай дэмакратычнай Польскай Рэспубліцы“...

Востра крытыкуючы і лаючы прагавітасьць і няздарнасьць гэтай пануючай шляхты, Сташыц першы пачаў гаварыць аб тым, хто ў працягу вякоў маўчліва і пакорна карміў усё гэнае гуляўшае ды сьвяткаваўшае паньства, накладаючы яму —з сваей крыві і працы—поўнае карыта дармовага корму... Сташыц першы ў Польшчы пачаў гаварыць аб палітычным раўнапраўі—дый ня толькі для мяшчан, але і для сялянства.

Сучасная панска-буржуазная Польшча „шчыра“ сьвяткуе юбілей свайго „вучыцеля“, які аб панаваўшых тады (як і цяпер!) панох гаварыў так:

„Я голасна кажу, хто шкодзіў маей айчыне. —**Ад адных паноў ідзе згуба для Польшчы**.—Бо-ж гэта яны Рэспубліку польскіх грамадзян ператварылі ў рэспубліку грабежцаў, здраднікаў, клятвапраступнікаў і юргельтнікаў“.

І вось галоўныя правадыры сучаснай Польшчы, як „лявіцовай“ (Пілсудскі), таксама і „правіцовай“ (Дмовскі і Розвадовскі) — у адзін голас сцьвярджаюць, як далёка цяперашнія ўнукі абагналі сваіх дзядоў-сучасьнікаў Сташыца... Бо і цяпер „Рэспубліка“ ці „Канстытуцыя“ істнуюць толькі для тых „прыраджоных валадароў“, якіх так красамоўна пералічыў Сташыц, і — ня істнуюць зусім для 5/6 працоўнага—сялянска-работніцкага, а перад усім—няпольскага насяленьня дзяржавы!

А вось што тады пісаў Сташыц аб сялянстве ў Польшчы:

„Бачу я ў Польшчы мільёны стварэньняў, з якіх адны ходзяць амаль ня голымі, іншыя — пакрыты скурай або голай сярмягай... усе высахшыя, згалелыя, абросшыя валасамі... Вочы ў іх глыбака запалі пады-лобам... Дыхавічнымі грудзьмі цяжка працуюць... Пахмурныя, задураныя, цёмныя... Мала чуюць і мала мысьляць, і ў гэтым — іх найвялікшае шчасьце... Ледзь можна дагледзіць у іх разумную душу. Іх зьвярыны выгляд больш напамінае жывёлу, як чалавека“...

„У гэткай цямніцы смуроду і дыму стомлены дзеннай працай хлебароб кладзецца спаць на гнілой саломе, як зьвер у бярлозе“...

„Паны польскія! Вось, якое раскошнае жыцьцё пад вамі мае тая частка людзей у краі, ад якой залежыць цяпер лёс вашай Рэчыпаспалітай!“.—„Вось гэта—тыя людзі, якія вас кормяць“...

І Сташыц дадаваў, што сялянства, якое гэтак жыве, гэта — агромная большасьць насяленьня краю... І ў сваіх „Перасьцярогах Польшчы“ Сташыц грозна прарочыў, што ня будзе ратунку, ня будзе будучыны таму гаспадарству, якое не захоча ці ня здолее з гэтага „зьвера“ зрабіць—чалавека, даўшы яму чалавечае жыцьцё...

І мы ізноў запрашаем усіх „унукаў“, згубіўшых ужо раз сваё гаспадарства польскіх паноў—паглядзець, як жыве і працуе — пад іх „дэмакратычна-паліцэйскім“ панаваньнем—беларускі і ўкраінскі хлебароб у сваіх зямлянках на „Крэсах“, запраўды-ж роўных гэным з-прад 150 гадоў бярлогам...

Калі што і зьмянілася ад часоў Сташыца ў гэтым сялянстве ў Польшчы, дык толькі—яго душа, якая ўжо **і чуе і мысьліць многа**, ды толькі хаваецца—дапары...

---

Галоўнай прычынай польскай дзяржаўнай катастрофы Сташыц лічыў—маральны ўпадак польскага грамадзянства, грамадзкую гніль, леннасьць і паразітнасьць яго.

Хай-жа паны пракуроры сучаснай Польшчы, якія змушаны мець дзела з праступленьнямі польскай буржуазіі і яе бюракратыі, дакажуць Сташыцу статыстычнымі лічбамі, што ў новай „дэмакратычнай Польшчы“ грамадзкая маральнасьць стаіць вышэй!..

---

Пратэстуючы горача проці гвалтоўных падзелаў Польшчы, Сташыц пісаў, што — „цэласьць і непадзельнасьць жывога народу ёсьць яго першым і бясспрэчным правам — боскім і людскім“...

Ясна, што гэта датычна ня толькі польскага народу, але і... беларускага!

Пэўна-ж і паны Дашыньскія, Домбскія і Васілеўскія, ня кажучы ўжо аб Грабскіх і Скульскіх, якія парэзалі рыжскім нажом жывыя братнія народы, — пэўна-ж і яны сказалі, не чырванеючы, пекныя прамовы на розных „акадэміях“ у чэсьць „айца польскага дэмакратызму“ — аб шляхотных нацыянальных ідэалах Сташыца, якія яны „праводзяць у жыцьцё“...

---

Сташыц крэпка верыў у польскі працоўны народ.—У яго „цудоўнае адраджэньне“...

Але больш усяго ён баяўся таго, што гэты польскі народ ізноў пападзе пад панаваньне тэй самай польскай шляхты...

Вось, як пісаў ён аб гэтым.

Больш усяго трэба баяцца, „каб люд польскі —пры гэтым сваім цудоўным адраджэньні—ізноў не падпаў пад урад злых, дрэнных, маральна-папсаваных, або духоўна-нязДарных людзей, людзей з таго-ж самага папсаванага насеньня”... Ен баяўся, каб „польскі народ не падпаў яшчэ раз пад панаваньне тых, што ўжо раз згубілі гэты люд, адны праз сваю пыху і злосьць, іншыя—праз сваю няздарнасьць і дурноту“...—„Дык ці-ж польскі народ мае і можа быць адраджоны праз тых, што яго згубілі“?—забіваючым, як сталь, пытаньнем канчае ён...

---

Да гэтых слоў Сташыца, якога ясны розум і прарочы дух так выхваляюць цяпер самі палякі на нязлічаных „абходах“ і „акадэміях“, мы ня маем дадаць нічога. Сама польская запраўднасьць сцьвярджае 150-летнюю зоркасьць прарочага вока Сташыца лепш, як усе прамовы і адчыты на яго юбілеі.

Цікава ўканцы дадаць, што Сташыц, моцна веручы перад усім у польскі народ, дый наагул—**у народы, а не ў пануючыя над імі вярхі**, верыў і ў тое, што не далёка тыя часы, калі ўсе гэтыя народы, якіх дзеляць цяпер якраз гэтыя вярхі, — **аб'яднаюцца і злучацца ў нейкае адзінае цэлае.**

І вось, ведаючы, што пад словам „люд“ Сташыц разумеў перад усім сялянства, вельмі цікава адзначыць яшчэ адзін мамэнт: Сташыц, сацыяльна-палітычны геній і прарок Польшчы, пісаў, што гэтага вялікага і магутнага пачыну ў справе аб'яднаньня і злучэньня народаў ён спадзяецца ад... **Расейскага Усходу.**

Гэтая апошняя вера і думка Сташыца можа найбольш цікавая дый пікантна...

# Інтэрпэляцыя

дэпутата П. Валошына і таварышоў з Соймавага Клюбу Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады да пана Міністра Унутраных Спраў у справе **біцьця і катаваньня 22 вязьняў у Саколцы** і ў справе варварскага мучэньня **вязьня Уладзіміра Шаха.**

Зьдзекі адміністрацыйных уладаў над працоўнай люднасьцяй і нацыянальнымі меншасьцямі маюць ужо ў гісторыі незалежнай Польшчы доўгую і крывавую карту. Працоўная кляса беларускіх зямель церпіць ня толькі нараўне з работніцка-сялянскай клясай усяе Польшчы, але зносіць яшчэ дадаткавыя зьдзекі з прычыны сваей нацыянальнасьці. Факт, які цяпер падаем да ведама п. Міністра Унутраных Спраў, зьяўляецца толькі часткай у ланцугу мукаў і пытак, у які закаваны беларускі працоўны люд. Факт гэты настолькі дзікі, што гаворыць сам за сябе і не патрабуе паясьненьняў.

У начы з 15-га на 16-га сьнежня 1925 г. арыштавалі і пасадзілі ў тымчасовым вастрозе ў Саколцы 22 асобы, паміж іншымі і кандыдата з выбарнага сьпіску № 16 у Сойм Польскай Рэспублікі Вінцэнта Чэхавіча. Вось прозьвішчы арыштаваных: Валошын Юльян, Цытка Гіпаліт, Белакос Міхась, Цытка Зьмітрук, Цытка Гіляры, Цытка Язэп, Баравік Янук, Суравец Аляксандар (абодва апошнія нялетнія, Матусевіч Язэп, Белакос Нікaнор—усе з вёскі Іраўляны, Адэльскае гм.; Муха Міхась, Муха Юльян, Шах Уладзімір, Савіцкі Якуб, Гастчар Міхась — усе з вёскі Кудрычы, Крынскай гм.; Чэхавіч Вінцэнты, Віткоўскі Аляксандар, Бародзіч Марцін, Бародзіч Гарасім, усе з вёскі Кнышавічы, Шудзялаўскай гм., ды Стамблер з м. Крынкі, Горадзенскага павету.

Усіх арыштаваных білі і катавалі ў дэфэнзыве, якая заўсёды карыстаецца гэтымі мэтадамі, каб вымусіць прызнаньні. Асабліва варварска быў катаваны арыштаваны Шах Уладзімір. Вось як: зьвязалі яго гэтак, што далоні абнімалі ступені сагнутых ног, а паміж сагнутымі каленямі і лакцямі прасунулі шаблю. **Гэтак зьвязанага білі.** Аб ступені катаваньня сьведчыць факт, што **біты, вырабляючыся, паламаў шаблю, да якой яго прывязалі. Акрамя гэтага, улілі катаванаму некальні бутэлек вады з воцтам праз нос.**

З прычыны гэтых нялюдзкіх катаваньняў у засьценках польскай дэфэнзывы зыходзяць на ніштo выпадкі сярэднявечнай інквізыцыі.

Інтэрпэлянты пытаюцца ў п. Міністра:

1) Ці ведамы яму вышэйапісаныя факты?

2) Ці маніцца ён загадаць ураз-жа зрабіць сьледзтва ў справе бітых і катаваных вязьняў у Сакольскай дэфэнзыве?

3) Ці вінавайцы дзікіх катаваньняў, якія зьнясьлі вязьні ў Саколцы, а асабліва Шах, будуць пацягнуты да карнай адказнасьці;

4) Ці і якое распараджэньне склонны ён выдаць, каб нарэшце палажыць канец зьдзекам адміністрацыі над беларускай працоўнай люднасьцяй?

5) Ці здае сабе п. Міністар справу з таго, да чаго можа давясьці працоўную беларускую люднасьць, здушаную нэндзай і безрабоцьцем, пры аднача́сным абцяжэньні яе падаткамі, гэткае зьверскае катаваньне адміністрацыяй?

Варшава, 15-га студзеня 1926 г.

---

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### „Падарункі“ польскага ўраду—меншасьцям.

Нарэшце „крэсавая сэкцыя“, роўна праз 9 месяцаў пасьля рашучага „флітру“ Грабскага з Тугуттам—спарадзіла маленькага рахітычнага байстручка—„палёгкі“ нацыянальным меншасьцям...

На падставе пастановаў „крэсавай сэкцыі“, як пішуць жыдоўскія газэты ў Варшаве, урад выдаў загад аб дазволе:

1. жыдом... гаварыць на сваіх сабраньнях па-жыдоўску дый па стара-жыдоўску (гэбрайску);

2. беларусам і ўкраінцам—адрэсаваць пасылкі на сваей мове, але толькі на абшарах беларускіх і ўкраінскіх...

### Забастоўкі ў Варшаве.

28 студня пачалася забастоўка трамваяў.

26 студня ў Варшаве выбухла забастоўка ўсіх тэлефаністак.

### Вялізарныя мітынгі безработных.

У Кракаве, у Пазнані, у Лодзі і іншых местах адбыліся вялікія мітынгі-маніфэстацыі безработных, трэбаваўшых хлеба і працы. Паны пэпэсаўскія паслы пасьпявалі ўсюды, выбіваючыся з сілаў, каб пераканаць работнікаў у тым, што бяда польскіх работнікаў—„вынік сусьветнага крызісу“, ды што найляпей зьвядуюць гэтую бяду пэпэсаўскія міністры, цалуючыся па кутох з эндэцкімі прамысловцамі...

### Што гатуецца ў Лодзі.

„Robotnik“ паведамляе аб рыхтаваньні да генаральнага бою, які нарастае ў Лодзі.

Як ведама, у Лодзі — больш за 100 тысяч безработных,—знача каля 400 тысяч людзей, якія гінуць з голаду дый з холаду (лічачы па 4 асобы на сям'ю). Тыя дапамогі, якія гэтая армія галодных сьмяротнікаў атрымлівае ад ураду,—кропля ў моры гэтай галоднай і халоднай бяды...

Вялікая маса работнікаў працуе толькі па 2—3 дні на тыдзень.

І вось пры гэтых варунках, пад гэтую, як кажа газэта „бочку з порахам“ лодзкія прамысловцы падкладаюць агонь... Паны фабрыканты з ведамым добра ў Віленшчыне п. Ландсбэргам (быў начальнікам чыгункі, скуль выгнаны за вялізарную хабаршчыну, якую разьвёў у сваей „гаспадарцы“)—пастанавілі скарыстаць з выгаднага мамэнту, каб задушыць работнікаў: адабраць у іх нават рэшткі „сацыяльных заваяваньняў“.

Лодзкія прамысловцы, ведаючы аб грашовым крызісе ў Польшчы, заявілі ўраду, што толькі тады могуць далей працаваць на сваіх фабрыках' калі будзе ўведзены 10-гадзінны дзень працы, калі будуць скасаваны ўсе паборы з іх у Касы Хворых і ў фонд безрабоцьця, калі будуць спынены платныя одпускі работнікаў... Тады, дзякуючы эканоміі ў прадукцыі на 15 працэнтаў (у іхнюю-ж кішаню), польская прамысловасьць здолее канкураваць з заграпічнай... Інакш прамысловцы пагражаюць зачыненьнем усіх фабрык!

Наша газэта толькі што высьветліла чытачом усю бязглуздасьць гэтых мяркаваньняў. Цяпер мы толькі падчырківаем правакацыйную дзеяльнасьць паноў Ляндсбэргаў, якія, „падпаляючы“ работнікаў, у канцы канцоў толькі самі сабе, дый усей буржуазнай Польшчы капаюць магілу... Ці-ж не разумеюць гэтыя паны, што каля паўмільёна працоўных людзей ня будуць спакойна і пакорна паміраць?!

### Зьезд польскіх фашыстаў.

У Варшаве адбыўся зьезд так-званага „Аб'яднаньня Польскіх Таварыстваў Рэчыпаспалітай“, на чале якога, як ганаровы прэзэс, стаіць сам старшыня Сэнату п. Тромпчыньскі.

Старшыней гэтага аб'яднаньня ўсіх фашыстаўскіх арганізацыяў Польшчы выбраны ізноў граф Замойскі, былы ад'ютант вялікага князя Мікалая Мікалаевіча.

### Без ідэалаў—дык з морфіем...

У „польскім Львове“—вялізарны скандал. — Выкрылася, што моладзь з „вышэйшых“ колаў польскага грамадзянства ўжывала морфій і кокаін (гэткія адурманіваючыя срэдствы — горшыя, чым гарэлка). У доме аднэй з паненак (належачай да багатай польскай буржуазіі!) зьбіралася моладзь, каб морфінавацца... Знайшлі сабе і „доктара“, які (як і наш „доктар“ Паўлюкевіч!) аказаўся самазванцам, дый гандляром рознымі дурманамі.

Ня маюць ідэалаў, ня маюць чым жыць духова, дык і—дурманяцца, зьнячуляючы душу і сумленьне рознымі атрутамі....

## Заграніцай.

### Польшча трэбуе сабе мейсца ў Радзе Лігі.

Польскі пасол у Парыжу зрабіў візыту прэм. Брыяну, каб заявіць яму, што Польшча жадае для сябе **сталага мейсца ў Радзе Лігі Народаў.** Францускія газэты з сумным гуморам пішуць, што ў падтрыманьні Брыяна Польшча можа быць пэўнай. — Няведама толькі... што скажа на гэта Англія?!

Англійская прэса сцьвярджае, што Англія скажа „на гэтае дамаганьне Польшчы рашучае „не“... Англія лічыць, што Польшча сьпярша павінна ўпарадкаваць свае ўнутраныя справы, а пасьля ўжо лезьці ў высокую палітыку дый прэтэндаваць на нейкі „ўплыў на міжнародавыя справы“... Самае большае, на што можа разьлічаць Польшча, гэта — выбар яе прадстаўніка на **нясталае** мейсца ў Радзе. З гэтага відаць, што нясталае мейсца ў Радзе Польшча мо' і атрымае — побач з Пэрсіяй і Пэру...

### Спаўненьне Кітаем ультыматуму Чычэрына.

Цэнтральны кітайскі ўрад, хаця сам зусім бяссільны, аднак-жа здолеў настаяць на тым, каб Чанг-Тсо-Лін, які (пры дапамозе Японіі) фактычна распараджаецца ў-ва ўсей Манчжурыі, загадаў выпусьціць усіх арыштаваных радавых урадоўцаў Усходня-Кітайскай чыгункі з начальнікам чыгункі Івановым на чале.

Пэўна-ж, ня пэкінскага ўраду спужаўся Чанг-Тсо-Лін, але пагрозаў СССР, які маніўся „завясьці парадак на чыгунцы“. Аднак-жа, гэта зусім не зьліквідавала пагрозы вайны на Далёкім Усходзе.

У Харбіне гуртуюца масы радавых войскаў. З другога боку Чанг-Тсо-Лін падыходзе пад Пэкін. Ня хоча, відаць, вайны з СССР перад усім Японія, якая пры гэтым павінна была-б адкрыта выступіць проці СССР, не хавацца, як цяпер, за Чанг-Тсо-Ліна.

### Экспозе новага нямецкага ўраду.

Новы канцлер нямецкай рэспублікі Лютэр зрабіў у Рэйхстагу экпозэ аб палітыцы ўраду.

У галіне вонкавай палітыкі новы ўрад будзе прадаўжаць палітыку папярэдніх, стоючы на груньце Лёкарнскіх умоваў. Найважнейшым крокам ураду будзе ўваход Нямеччыны ў склад Лігі Народаў. Але гэты крок можа адбыцца толькі тады, калі—шляхам перагавораў з дзяржавамі Антанты—будзе аканчальна выясьнена справа ачышчэньня Нямецкай зямлі ад чужаземнай акупацыі.

У галіне ўнутранай палітыкі новы ўрад перад усім займецца справай новага выбарнага закону. Пасьля будзе вырашана справа адшкадаваньняў былым князям і каралям за сканфіскаваныя іх маемасьці. Справа гэта будзе вырашана ўрадам—без плебісцыту...

Урад будзе далей працаваць дзеля злагоджа-

ньня прамысловага крызісу і дапамагаць безработным.

У канцы Лютэр абяцаў, што Нямеччына ўвядзе ў сябе 8-гадзінны дзень працы, як толькі пастанову Вашынгтонскай Канфэрэнцыі аб гэтым выпаўніць таксама Францыя, Англія і Італія...

Ведама, што фашыстаўская Італія ніколі ня зробіць гэтага, а англійскую прамысловасьць гэтая мера аканчальна дабʼе!

**„Адшкадаваньні" былым манархам.**

У Нямеччыне цяпер ідзе барацьба проці таго, каб урад выплачываў былым манархам вымаганыя апошнімі „адшкадаваньні". Вось-жа ў сувязі з гэтым у Бэрліне пад новы год былі расклеены камуністамі гэткія плякаты:

„Параўнуйце: Вільгэльм атрымлівае штомесячную рэнту ў 50.000 залатых марак і „адступнае"—зямля, замкі, налічныя на 500.000. Баварскі Вітэльсбах атрымлівае 160 міліёнаў золатам. Ваенны інвалід, які страціў працаздольнасьць на ўсе 100 проц., мае 63 маркі рэнты, удава забітага атрымлівае на месяц 20 марак. Беспрацоўным дзяржава дае 8 марак на тыдзень. Параўнайце!".

# ХРОНІКА.

**Паварот беларускіх паслоў з СССР.** Надовячы вярнуліся беларускія дэпутаты Мятла (Бел. Сялянска-Работніцкая Грамада) і Ярэміч (Бел. Пас. Клюбу), якія разам з групай польскіх левых паслоў езьдзілі ў СССР дзеля азнаямленьня з тамтэйшымі варункамі жыцьця.

Як выясьняецца, падаваныя польскай прэсай у Польшчы разныя ідыятычныя весткі—з „таёмнае крыніцы"—аб гэтай падарожжы прадстаўляюць бязглуздую брахню.

Ад дэп. Мятлы мы атрымалі абяцанку даць для нашае газэты падробную справаздачу з падарожжы.

**Пасольскі мітынг у Беластоку.** У нядзелю, 24 студзеня, старшыня соймавае фракцыі Белар. Сялянска-Работніцкае Грамады, пасол Тарашкевіч, выступаў на вельмі людным мітынгу ў Беластоку.

Беларускага пасла беластоцкія работнікі віталі вельмі горача.

**Беларускі адрыўны календар на 1926 г.** гэтымі днямі выходзе ў сьвет у другім выданьні.

Цана вельмі прыступная: усяго 1 злоты.

Няхай-жа кожын беларус мае ў сваей хаце календар у роднай мове.

**Судовыя працэсы.** На дзень 1 лютага назначаны ў Віл. Акр. Судзе разгляд справы 94 камуністаў.

— На 1 марца ў тым-жа судзе будзе разглядацца справа кс. Гадлеўскага, вядомага беларускага дзеяча, якога вінавацяць з арт. 129 ч. 1 і 6 і з арт. 130 ч. 1 абз. 1 п. 3. К. К. Разам з ім будуць судзіць селяніна Пётру Рагача, з Сьвянцяншчыны, якому закідаюць тыя-ж праступкі.

Як ведама, кс. Гадлеўскі вельмі энэргічна працаваў дзеля нацыянальнага ўсьведамленьня беларусаў-каталікоў у Жодзіскай парафіі, ды гаварыў казаньні пабеларуску. Дык на яго палякі ўсьцяж пісалі розныя ілжывыя даносы, абвінавачваючы ў „антыпаньствовасьці".

**Чыгунка з Вільні ў Менск.** Нарэшце блізіцца час, калі можна будзе з Вільні ехаць старым шляхам — праз Маладэчна ў Менск. У Вільню прыехала з Менску дэлегацыя чыгуначнікаў на чале з інжэнерам Сіўковым, якая занялася справай тэхнічнага апрацаваньня мераў, каб адчыніць простую дарогу паміж Вільняй і Менскам. Мясцовыя газэты пішуць, што да сакавіка ўсё будзе нарыхтавана.

Каму-каму, а для беларусаў гэта справа першай вагі.

**Пажар Мэленгянскай гміны.** 27 студня пажарам зьніштожаны гмах Мэленгянскай гміны, Сьвянц. павету. Каса і гмінныя акты—уратаваны.

**Перадача Яніскай гміны ў Сьвянцянскі павет.** 28 студня перадана гміна Яніская з пав. Віленска-Троцкага ў Сьвянцянскі.

**Ізноў крывавыя расправы.** Не пасьпела Вільня забыцца аб бомбах, кінутых польскімі вучнямі ў польскай гімназіі ім. Лелевэля, як ізноў пралілася кроў сярод польскае моладзі. Іменна 25 студзеня між двумя польскімі студэнтамі Віленскага Унівэрсытэту ўзьнялася спрэчка на вуліцы, у выніку якой у руках абодвух аказаліся рэвальвэры, і стрэлам аднаго быў забіты прыпадкова быўшы тут студ. Бончкевіч.

Так, так: залішне многа гранатаў і рэвальвэраў мае грамадзянства „пануючае нацыі"!..

## Ад Адміністрацыі.

Просім паважаных гр. Падпішчыкаў, як новых, каторыя **выпісываюць** „Бел. Ніву" праз сваю пошту, так і старых, каторыя **ўносяць** праз пошту **падпіску**, паведамляць аб гэтым Адміністрацыю газэты, дзеля таго, што пошты паведамляюць нас толькі аб ліку замоўленых экзэмпляраў, не падаючы прозьвішчаў падпішчыкаў.

Гэтакім чынам могуць здарыцца няпрыемныя і шкодныя з матэрыяльнага боку, памылкі, бо можна аднаму і таму самаму падпішчыку слаць газэту ў падвойным ліку.

# З жыцьця Горадні.

*Мітынг Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады.*

(Ад уласнага карэспандэнта).

З таго часу, як беларускі дэпутат Сойму ад Горадні Сяргэй Баран быў заарыштаваны і пасаджаны ў турму, люднасьць Горадні рэдка бачыла сваіх прадстаўнікоў і рэдка мела магчымасьць чуць ад іх справаздачу аб іхнай працы. Калісьці дэпутат Баран часта нарыхтоўваў сабраньні і інфармаваў люднасьць аб усім, а як яго засадзілі ў турму (ад даўжэйшага часу сядзіць ён і дагэтуль у Беластоку), дык толькі разы па 1—2 пабывалі ў нас на мітынгах Рак-Міхайлоўскі, Мятла ды часьцей заглядаў Валошын, а больш так-такі ніхто з беларускіх дэпутатаў і не захацеў адведаць асіроцаную Горадню.

Вось чаму з'яўленьне абвестак у Горадні аб маючым адбыцца 24 студзеня беларускім мітынгу надта абрадавала нашыя Горадзенскія працуючыя масы. У гэты раз прыехалі да нас прадстаўнікі Соймава клюбу Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады Сымон Рак-Міхайлоўскі і Павал Валошын. На мітынгу, які цягнуўся ня менш 2 гадзін, было прысутных больш за паўтары тысячы асобаў. Прамовы ўспомненых дэпутатаў зрабілі моцнае і нязгладнае ўражаньне на прысутных. З вялікай уважлівасьцю слухала аўдыторыя сьмелыя словы прамоўцаў, перарываючы іх часта дружнымі воплескамі. Так жыва і так горача выяўлялі прысутныя свой настрой дзеля таго, што дэпутаты якраз надта трафна падабралі тэмы для сваіх прамоваў, гаварылі аб пытаньнях, якія найболей цяпер датычуць работнікаў і сялян, аб цяжарах і крыўдах, якіх найбольш балюча адчуваюць цяпер працоўныя масы і горада, і вёскі.

Мітынг распачаўся прамовай — уступам Рак-Міхайлоўскага, які, успомніўшы аб блёку № 16 ў часе выбараў, ахарактэрызаваў сучасную палітычную сітуацыю і прычыны, якія змусілі частку беларускіх дэпутатаў да ўтварэньня клюбу і партыі Бел. Сял.-Раб. Грамады. Задачы і асноўныя палажэньні праграмы Грамады прысутнымі былі прыняты з поўным адабрэньнем, што знайшло свой яскравы выраз у прынятай на мітынгу рэзалюцыі. Работнікі дасканальна разумеюць, што толькі цесны саюз сялян і работнікаў, гэтых найвялікшых клясаў працуючых масаў у кожнай дзяржаве, можа мець удачу ў барацьбе з буржуазіяй за лепшую долю. Дзеля гэтага работнікі Горадні выразілі поўнае даверые Грамадзе і яскрава задэклявалі сваю дапамогу ў яе працы.

З вялікай прамовай выступіў быў дэпутат Валошын, які шырака абрысаваў фінансавую палітыку, як цяперашняга коаліцыйнага, так і ранейшых буржуазных польскіх Урадаў, сьцьвярджаючы свае вывады афіцыяльнымі цыфрамі выдаткаў па кожнаму міністэрству і ўказываючы, якія падаткавыя цяжары змушаны несьці на сваіх плячох працуючыя ў гарадох і на вёсцы і да якой нэндзы даведзены гэтымі падаткамі і селянін і работнік. Не абмінуў Валошын і справы зямельнае рэформы, тэй уставы, якая пазбаўляе нашага зьбяднеўшага селяніна права на зямлю з бліжэйшых дворных абшараў; успомніў па падставе дакумэнтальных даных аб польскіх турмах, аб лічбе палітычных вязьняў, аб галадоўках іх; доўга застанавіўся на сыстэме пануючых правакацыйных арыштаў, на сыстэме біцьця і катаваньня вязьняў.

І як у Сойме, так і тут на мітынгу, як прадстаўнік Грамады, Валошын зазначыў, што ўсе гэтыя праявы буржуазных Урадаў спыняцца толькі пры ўтварэньні праўдзівага Работніцка Сялянскага Ураду і што толькі пры гэтакім Урадзе можа вырашыцца належным спосабам лёс прыгнечаных народаў.

Далей у працягу гадзіны гаварыў Рак-Міхайлоўскі. Прамоўца падробна ахарактэрызаваў працу буржуазных Урадаў Польшчы, якія стварылі гаспадарчы і фінансавы крызіс, якія давялі да нэндзы і даводзяць да адчаю работніка і селяніна; раскрыў абраз Урадовай палянізатарскай палітыкі на нашых землях праз школу, вайсковае асадніцтва і коленізацыю, як на вёсцы, так і ў гарадох.

Паскольку з прычыны гаспадарчага крызісу ў-ва ўсей Польшчы ёсьць ужо да 400.000 безработных, што ў самай Горадні зарэгістраваных безработных ёсьць да 1500 асоб—ня кажучы ўжо аб незарэгістраваных, якіх ня менш—прамоўца зусім слушна паклаў найбольшы націск на пытаньне аб безработных і на тыя дамаганьні, якія павінны ставіць цяпер безработныя. Гэтыя пастуляты знайшлі сабе таксама выраз у прынятай рэзалюцыі. Побач было абмяркавана пытаньне і аб агульным супольным фроньце (адзін рабочы сьпісак) усіх работнікаў пад штандарам Рады Прафсаюзаў пры выбарах да Касы хворых.

Гэтае пытаньне ёсьць актуальным цяпер у нас у Горадні, бо ў незабаве маюць адбыцца ўспомненыя выбары, на якіх работнікі—пэпээсы зьбіраліся было раней выступаць з асобным сьпіскам і толькі ў апошнія дні згадзіліся на супольны сьпісак з лявіцай прафсаюзаў, прыняўшы пляцформу апошняй, хоць з гэткай пастаноўкай справы далёка не ахвотна але прымушаны ўжо лічыцца павадыры пэпээсаў у цэнтры. Павадыры гэныя, як відаць, пачынаюць ужо траціць свой уплыў на работніцкія масы на нашых землях. І вось тут зусім начасе і надта патрэбнай была тая строгая крытыка, якую прамоўца навёў быў на P. P. S., дзе ўспомнена было і галасаваньне пэпээсаў у Сойме за асадніцтва і калёнізацыю на нашых землях і галасаваньне за *выкуп зямлі ад панаў*, кантакты павадыроў пэпээсаў з буржуазіяй, іхняя ўгода (цяперашні Коаліцыйны Урад), іхняе спрацiўленьне абʼяднанаму супольнаму фронту усіх прафсаюзаў у маштабе міжнародным і г. д. Вывад адсюль—утрата павадырамі пэпээсаў пралетарскага разумаваньня работніцкае справы і дань доўжнага тым нізовым работнікам, якія больш цьвяроза пачынаюць глядзець на рэчы і на ўгадоўствуючую P. P. S.

Уканцы прамоўца застанавіўся быў яшчэ над тым, што буржуазія адчувае нарастаючыя сілы і незадаволеньне рабочых масаў, што яна траціць ужо веру ў сябе, што буржуазія аканчальна разлагаецца (лапаўніцтва, хабарніцтва, крадзежы казённых грошаў, дэфраўдацыі у банках, у судзе нават) і пачынае пераводзіць свае капіталы ў заграмічныя банкі (Карфанты, гр. Замойскі, Падэрэўскі), як гэта было ў свой час перад рэвалюцыяй у Расеі; заклікаў прамоўца рабочыя масы да моцнай спайкі і салідарнасьці ў змаганьні за лепшую долю.

Увесь мітынг прайшоў пры бадзёрым настрою прысутных, якія гарачымі і дружнымі воплескамі абдорывалі прамоўцаў.

Па аднагалосным прыняцьці прысутнымі ніжэй паданых рэзалюцый і тэксту прывітальнай тэлеграмы дэпутату ад Горадні Барану, які дагэтуль сядзіць у Беластоцкім вастрозе, мітынг абвешчан быў закончаным і раздадзена было некалькі сот экзэмпляраў кніжкі Прамовы ў Сойме дэпутатаў Бел. Сял.-Раб. Грамады, Бюлетэню Грамады і апошняга № газэты „Беларуская Ніва".

### Рэзалюцыя.

Заслухаўшы прамовы дэпутатаў Беларускай Сялянска-Работніцкае Грамады, мы работнікі м. Горадні, прысутныя на мітынгу ў дзень 24. І. 26 г., прынялі наступную рэзалюцыю:

### А. Па пытаньнях эканамічных:

Прыймаючы пад увагу ўсе далей пашыраючаеся безрабоцьце і агульны эканамічны крызіс, створаны буржуазнымі ўрадамі Польшчы, пастанавілі дамагацца:

1) Дзяржаўнай для ўсіх безработных як у месьце так і ў вёсках (фабрычныя безработныя, дробных закладаў, рольныя, сезановыя і лясныя) дапамогі, якая павінна раўняцца поўнай заработнай плаце і трываць праз увесь час яго безрабоцьця.

2) Звальненьня ад падаткаў усіх працоўных і пералажэньня гэтага цяжару на капіталістаў і абшарнікаў.

3) Безадкладнага ўстрыманьня падвыжкі кватэрнае платы і поўнае звальненьне ад кватэрнае платы безработных.

## Адвечны абраз.

Заціх гудок фабрычны,
У сьценах нуд і сум:
Ля фабрыкі бязьлічны
Сабраўся чорны тлум.
Худыя рабачаі
Забіты громам бед,
Па стараму звычаю—
Сюды прыйшлі па хлеб.
І кожны поўны з іх задум,
І знаць на кожным гора й сум.

За вёскай у палацы
Сядзіць вяльможны пан,
Прад ім на дворным пляцы
Стаіць таўпа сялян,
Худыя земляробы,
Сагнуўшыся у клюк—
Ахвяры злой хваробы...
І мазалістых рук.
І кожны поўны з іх задум,
І знаць на кожным гора й сум.

Спужалі фабрыканта
Галодных вочы мас;
Ён клікнуў каманданта
І даў яму прыказ:
„Забраць усіх да чыста,
„За кратамі іх скрыць...
„Пасьля няхай юрыста
„Навучыць іх—як жыць".
А сам запёрся у пакой,
Лічыў да вечара скарб свой.

Вяльможны пан заглянуў
Зьнянацку у вакно,
Спужаўся так, аж зьвянуў...
І затрасло яго:
Штафэту да павету
Павёз ягоны брат...
Забралі іх са сьвету
І ўжо глядзяць з закрат.
Пан сам запёрся у пакой,
Лічыў да вечара скарб свой.

Турма стара-вякова
За местам на гары
Стаіць, маўчыць, ні слова
Ня кажуць там муры:
І толькі енкат буры
Дзярэцца ў краты там...
Жыхар турмы пануры—
Адвечны—цёмны Хам.

14./XII. 1925 г. **Васіль Горны.**

4) Утрыманьня Кас Хворых выключна коштам капіталістаў з адначасным кіраўніцтвам Касамі з прадстаўнікоў работнікаў.

5) Пашырэньня ўставадаўства аб Касах Хворых у тым, каб апекаю Кас Хворых маглі карыстацца аднолькава з працуючымі і ўсе безработныя, якім павінна быць дадзена і права галасаваць і кандыдаваць ў часе выбараў у Касы Хворых.

6) Безадкладнага спыненьня рэдукцыі рабочых мяйсцовага паходжаньня, як звальненьне з был. фабр. Шэрэшэўскага працаваўшых там беларусаў, жыдоў і павароту іх на ранейшую службу.

### Б. Па пытаньнях палітычных.

Бяручы пад увагу, што сучасная шавіністычна-нацыяналістычная палітыка буржуазных польскіх урадаў, палітыка тэррору і правакацыі асабліва адбіваецца на т. зв. меншасьцях (беларусы, украінцы, жыды), тысячы якіх запаўняюць польскія турмы, будучы перад гэтым скатаванымі і акалечанымі, пастанавілі дамагацца:

1) Скасаваньня кары сьмерці.

2) Спыненьня белага тэрору і самага суровага ўкараньня вінаватых у біцьці і катаваньні заарыштаваных.

3) Скасаваньня даразных судоў.

4) Поўнае амністыі для ўсіх палітычных вязьняў.

5) Спыненьня на беларускіх землях асадніцтва вайсковага і калёнізацыйнае палітыкі, якая праводзіцца, як у вёсцы, так і ў месьце (насланыя з Пазнані польскія работнікі—хадэкі ў цяперашнюю манапалёвую табачную фабрыку, былую Шэрэшэўскага).

6) Надзяленьня ўсіх беззямельных і малазямельных сялян зямлёю бяз выкупа і выплаты.

7) Разьвязаньня сучаснага Сойму і Сэнату, у складзе якіх перавышаюць цапер капіталісты, абшарнікі і багатыя пястоўскія кулакі і ўтварэньня ўлады Сялянска-Работніцкай, бо толькі пры ёй магчыма будзе рэалізаваньне пастулятаў клясы работніцкай і сялянскай, і рэалізаваньне права ўсіх прыгнечаных народаў на поўнае самавызначэньне.

### В. Аб адносінах да Бел. Сял.-Раб. Грамады.

Падтрымаць Беларускую Сялянска-Работніцкую Грамаду, як сапраўдную выявіцельніцу інтарэсаў сялян і работнікаў на беларускіх землях.

### Тэлеграма дэпутату Сяргею Барану.

*Дэпутат Баран. Турма. Беласток.*

Работнікі Горадні, прысутныя ў дзень 24./I. 1926 года на мітынгу дэпутатаў Соймавага Клюбу Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады, горача вітаюць дэпутата Барана, трыманага дагэтуль у турме, як абаронцу інтарэсаў працуючых масаў горада і вёскі на беларускіх землях. Чэсьць дэпутату—мучаніку!..

**Нёман.**

## Карэспандэнцыі.

### Як перарабляюць беларуса на паляка.

(Радашкаўская воласьць, Вялейскага пав.).

Не адчынена ў нас ані адна беларуская школа, хоць дэкларацыяў сяляне нашае воласьці зложылі павятоваму інспэктару вясною 1925 года на школы ў Максімаўцы і ў Путніках.

З прычыны зложаных дэкларацый інспэктар перанёс польскую школу з Максімаўкі ў Кліманты, а ў Путніках істнуе школа беларуская прыватная—адзіная на ўвесь павет.

Польскае вучыцельства і нязначная па лічбе ў нашай воласьці польскае грамадзянства прыкладае ўсіх сіл, каб пашыраць культуру польскую, каб умацоўваць польскасьць. Так кіраўнік польскай школы ў Радашкавічах, нейкі Шюст ці як яго завуць у нас Шут, езьдзіць па вёсках і „наводзіць туманы“ — як сьмяюцца нашыя хлапцы—паказывае туманныя карціны і чытае лекцыі аб каралёх польскіх, аб патрэбе самалётаў для Польшчы і г. д. Апошнімі часамі ён пабываў з сваімі лекцыямі ў Валодзьках, у нас, у Пяцюлях, Павязыні, Сычавічах і Клімантах. Стараецца прывучаць нашых людзей да польскай мовы, намагаецца навучаць, як і чаму нашыя людзі павінны любіць Польшчу. Каму карысьць ад яго лекцый? Ды толькі яму самаму, бо хоча выслужыцца перад сваім начальствам і перад ксяндзом і мяйсцовымі панамі-абшарнікамі, якім надта па сэрцу гэткая энэргія і праца свайго польскага вучыцеля.

А адзін з нашых новых паноў дык навет зьбіраецца заткнуць за пояс гэнага Шюста сваёй працай у пашыраньні польскасьці. Гэты пан—нейкі Каўнацкі, які—як кажуць жыды ў нас у Радашкавічах — быў ня так даўно рэдактарам нейкай польскай чорнасоценнай газэты ў Вільні. Гэтаму Каўнацкаму дастаўся двор Малыя-Бакшты, як пасаг за жонкай сваей — унучкай былога ўласьніка гэтага двара пана Кавалеўскага. Новы валадар Малых-Бакштаў, хоць можа ня мае такога розуму, як той... стары Кавалеўскі—бо той хоць гаспадарку паставіў быў у сябе добра—маніцца перарабляць нас на палякоў, ладзячы „Польскі Народны Дом“ (Polski Dom Ludowy). І гэта яму лёгка — дом ужо ёсьць, а вучыцель Шут і др. памогуць Каўнацкаму ў гэтым, ды не адстануць і тыя, хто служыць—навет з нашых вясковых людзей—у гміне, атрымліваючы адтуль добрую пэнсію.

Цікава, як мяняюцца часы. Даўней — за часоў паншчыны—пры дарозе з Радашкавіч у Ілію на зямлі двара Малыя Бакшты ў Масьцішчы стаяла карчма; у часы Мікаля II пабудаваў Кавалеўскі каменны будынак, каб здаць яго пад „манапольку“. І была там доўгі час „манаполька“ (гэта недалёка ад вёскі Загорцы) для атручваньня людзей казённай гарэлкай. Цяпер гэтага дома мае шырыцца ўжо нібы не атрута і не для цела, а пажытак для душы нашага селяніна! Толькі нашыя людзі ня хочуць чамусьці лічыць гэты пажытак карысным для сябе. Дзіўныя—дапраўды—нашыя людзі! Ня плакалі, як зачынялася „манаполька“ там калісьці, ня цешацца яны і адчыненаму Польскаму Народнаму Дому. Уважаюць гэтую навінку за панскую зацею новага пана ў Малых-Бакштах і хітра падсьмейваюцца—як кожны беларус—паміж сабой, пытаючыся: ці шмат знойдзе палякоў сярод нас пан Каўнацкі, якія-б прагнулі хадзіць у Масьцішча слухаць панскую навуку.

**Лукаш з Пяцюляў.**

### Родная школа.

(В. Алекшычы, Горадзенскага пав.).

Дзівіліся мы, чаму, як радзіліся „языковыя законы“, дык нашы паслы іх байкатавалі і ўцякалі, замест каб ісьці на іх радзіны. — Цяпер нам усё ясна!

Мы шчыра верылі, што, падаўшы дэкларацыі на 40 дзяцей, зрабіўшы ўсё, чаго вымагае закон, будзем мець родную школу.

А яшчэ і інспэктар гэтае „спраўдзіў“.

Вось у гэтым „спраўджваньні“ і ўся „соль зямлі“, як кажуць! І якое гэта было „спраўджаньне“!—Гэта паліцэйскае дазнаньне!

І здаецца, што каб была хоць капля чалавечае сьвядомасьці ў п. Інспэктара, каб не зганяла паліцыя народ, як арыштантаў (для „sprawdzenia), каб рабілася гэта другім спосабам, дык кожная баба яму вытлумачыла б, што для яе вучыць свае дзіця найлепей ў роднай матчынай мове.

Школьны Інспэктар на Горадзенскі пав., пан Шульц, сваім паліцэйскім „sprawdzeniem“ давёў да таго, што вышла, што „lud nie chce szkoły białoruskiej“.

Забіць, задушыць усялякую ініцыятыву аб беларускай школе і рассадзіць польскія—мэта гэтага паходу! — Бо-ж усюды, дзе прасілі роднай школы, далі ці пакінулі надалей польскую школу, і нашы дзеці—пад пагрозаю штрафаваньня бацькоў — мусяць хадзіць у чужую па мове і духу польскую школу!

Аднак, галоўнай мэты гэтае палітыкі дапяць ня ўдасца: польская школа можа навучыць нас чытаць і пісаць папольску, а навет назовы і хронолёгію польскіх каралёў, але палякамі зрабіць ў XX веку ніколі ня здолее!

— **Родная школа—гэта сьвятое права кожнага чалавека, дадзенае яму самым жыцьцём!**—Гэта права, якое дыктуецца самым жыцьцём XX веку—і ніякія перашкоды ня ўстрымаюць імкненьня да яе!

Толькі цяпер, як гэтая, „языковая каша“, раскісла, увесь наш народ пачуў ад яе кепскі дух.

І вось толькі цяпер мы аценілі празорлівасьць нашых паслоў, якія ў часе радзінаў гэтых „законаў“ прадбачылі, што яны нам дадуць.

Дык жадаем нашым выбранцам сілы і энэргіі для змаганьня за родную нашую справу далей!

Мы, што-раз, то глыбей і мацней верым і разумеем, што родная школа, родная мова — гэта быць ці ня быць нашаму беларускаму народу!

І яе мы мусім здабыць!

**Вясковы хлапец.**

## З Радавае Беларусі.

### Да скліканьня І-га Беларускага навуковага кангрэсу.

Дзеля правядзеньня падрыхтоўчай працы па скліканьню 1-га Беларуска-навуковага кангрэсу, Рада Нар. Камісараў пастанавіла выдаць Інстытуту Беларускае Культуры з запаснага фонда пазычкова 3000 руб.

Бяда толькі, што тэрмін скліканьня гэтага кангрэсу нешта ўсё адкладаецца!

### Культурная праца спажывецкай каапэрацыі.

У сучасны момант па нізавой сетцы спажывецкай каапэрацыі БСР налічваецца 49 бібліятэчак, 33 хаты-чытальні, 2 народныя дамы, 12 кніжных паліц, 36 каапэрацыйных гурткоў і 1 клюб.

### Барацьба з беспрацоўем.

Народны Кам. Працы ў сёлетнім годзе вызначыў да водпуску на барацьбу з беспрацоўем у БСРР 880.000 р. (па дзяржаўнаму бюджэту — 480.000 р. і па мясцов. бюджэту—400.000).

Вызначаная па дзярж. бюджэту сума будзе разьмеркавана гэтак: а) на працоўныя калектывы—288.000 руб., б) па грамадзкія працы—144.000 р., в) на дамы для беспрацоўных — 14.400 р., г) на падрыхтоўку кваліфікаваных працаўнікоў—24.000 р. і д) на арганізацыйныя выдаткі—9.600 р.

Вызначаныя па мясцоваау бюджэту 400.000 р. пойдуць выключна на грамадзкія працы.

### Мэліарацыя.

У БСРР налічваецца ў сучасны момант да 450 мэліарацыйных таварыстваў.

Нядаўны досьлед выявіў, што ў працы гэтых тав-аў многа недалікаў.

Народны Камісарыят Зямляробства мае правесьці перарэгістрацыю ўсіх мэліарацыйных таварыстваў з тым, каб няжыцьцёвыя з іх скасаваць.

З прычыны пераходу мэліарацыйнай галіны на кошт дзяржавы, значна будзе пашырана праца сялянскай мэліарацыі.

Апроч таго, мае быць абвешчан конкурс на лепшае мэліарацыйнае таварыства.

Усе гэтыя мерапрыёмствы павінны палепшыць сялянскую гаспадарку і пашырыць мэліарацыю сіламі самых сялян.

## Паштовая скрынка.

**Падпішчыку № 51.** — Маеце аплочана па 15./II. 1926 год.

**Уладзіміру Калядзе.** Гаспадарчы аддзел выйдзе ў лютым, адразу за два месяцы ў большым разьмеры.

**Сымону Лапуху.** 20 штук календара насьценнага высылаем. Даем зьніжку 20 проц.; значыцца належыцца нам 7 зл. 50 гр. і за перасылку 30 гр. Астаецца з 10 зл. 2 зл. 20 гр., каторыя залічаем на газэту.

**Атрымана:**

Ад:—Уладыслава Кныша, Яна Сыча, Міхала Утліка, Уладзіміра Кулеша, Антона Кандратовіча, Уладзіміра Герэса, Яна Авдзея, Мікалая Кізевіча, Пятра Каўцэвіча, Міхала Жынькі, Базыля Літвінчыка, Базыля Івашкі, Міхея Грынка, Яна Пятрашкі, Лаўрэна Емяльянчыка, Якіма Зяновіча, Т. Карпюка—**па 2 злотых.**

Ад: — Аляксандра Кавалеўскага, Язэпа Жэлязоўскага, П. Ярашэвіча, Ганны Мазалеўскай, Міхала Русіна, Язэпа Загорскага—**па 3 злотых.**

Ад:—Ціхана Сыманчука, Д. Дожына, М. Ламана, Гальляша Белевіча, кс. Мікалая Барыслаўскага, Яна Новіка, С. Мазурэка, Максіма Абрамчыка, Анастасіі Алешкевіч, Паўла Бусько, Аляксандра Вашкевіча, М. Міхнюка, Аляксандра Малойла, Уладзіміра Каляды, Яна Ракевіча, Уладзіміра Шуманскага — **па 4 злотых.**

Ад:—Аляксандра Цьвікевіча, Антона Парфяновіча, Аляксандра Вільчыцкага—**па 5 злотых.**

Ад: — Тодара Сьвірыды, Палескага Ваяводзтва, З. Селіванца, Паўла Дрэмчука, Антона Мірановіча, Лявона Умпіровіча, Юрыя Яроцкага—**па 6 злотых.**

Ад:—Язэпа Шухно, Гальляша Опалька, Яна Крука, Чытачоў вёскі Зубава Бельскага павету, Алесі Каньчук—**па 8 злотых.**

Ад:—Рыгора Шчэцькі, Ю. Сабалеўскага, Піліпа Лукашэвіча, А. Кульбакі—**па 10 злотых.**

Ад: — Тодара Рамейкі, Яна Кузьміча і Сымона Пабудзея—**па 2 зл. 50 гр.**

Ад:—Язэпа Роўбы—15 зл., Даніла Міцкі — 1 зл. 10 гр., Уладыслава Паўліновіча—50 гр., Сінкевіча — 9 зл., Фл. Мазгеля—4 зл. 30 гр., Міхала Бандарчука 1 зл., Васіля Чэбатара—12 зл., Сымона Лапуха—2 зл. 20 гр., Інст. Бел. Культуры ў Менску—7 даляраў.



Рэдактар-Выдавец: **Ян Марціноўскі.**

Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.